MARK MILLAR · JOHN ROMITA JR.

# KICK-ASS 3™

$4.99

ISSUE 6




Мардабой 3
№6 (2013)
пераклад
і афармленне:
Козыраў Сяргей

JRJR
+
TP·DW



# KICK-ASS 3

## ISSUE SIX

**MARK MILLAR**
WRITER AND COCREATOR

**JOHN ROMITA JR.**
PENCILS AND COCREATOR

**TOM PALMER**
INKS AND WASHES

**DEAN WHITE and MICHAEL KELLEHER**
COLORS

**CHRIS ELIOPOULOS**
LETTERS

**JENNIFER LEE**
EDITOR

**LEINIL YU**
VARIANT COVER
PENCILS AND INKS

**JEROME OPEÑA**
VARIANT COVER
PENCILS AND INKS

**DAVE MCCAIG**
VARIANT COLORS
AND LOGO

## PREVIOUSLY:

Дэйв Лізеўскі заўсёды хацеў быць супергероем. Пакуль у яго не з’явілася дзяўчына. Але цяпер усіх герояў у касцюмах пачалі знішчаць. А Забівашка да гэтуль застаецца ў турме.

IDETTE WINECOOR: PRODUCTION

DAVID BOGART: SVP OF OPERATIONS & PROCUREMENT, PUBLISHING

**KICK-ASS 3 No. 6, April 2014.** Published Monthly by MARVEL WORLDWIDE, INC., a subsidiary of MARVEL ENTERTAINMENT, LLC. OFFICE OF PUBLICATION: 135 West 50th Street, New York, NY 10020.  $4.99 per copy in the U.S. in the direct market; Canadian Agreement #40668537. **Printed in the USA.**


«Раней мы вельмі часта **дурэлі**...»

Так, татуля. Я ляжу на рэйках. Што ты хочаш, каб я зрабіла?

Патрапіла пад цягнік, канешне ж. **Што** ты яшчэ можаш зрабіць, знаходзячыся там, дурненькая?
Я не разумею. **Які** цягнік?

Той, што набліжаецца да цябе на хуткасці 70 міль у гадзіну. Але не забудзь, табе трэба зачапіцца за яго ў пэўны момант, інач твае рукі паедуць далей, а ты застанешся тут, Міндзі.
Я буду сачыць за табой са свайго назіральнага пункту і там жа ты атрымаеш падарунак, які я табе падрыхтаваў.
Ооо, які падарунак?

Усё зробіш - даведаешся.


Не магу ўжо дачакацца.


Ага. Вось ён. Памятай, табе трэба патрапіць на дах і саскочыць, калі ўбачыш, як я махаю табе з моста.
У цябе будзе пятнаццаць секунд, каб забрацца наверх. Затрымка, і мы больш не пабачымся.
Зразумела цябе.


Гатова?
На ўсе сто, Вялікі татачка.


Паехалі!






Міндзі? Ты на цягніку? Паўтараю, ты на цягніку? **Канец сувязі!**


Супакойся, тат. Я на цягніку.


Як два пальца аб асфальт.
Наперадзе **та-нэль**, разумная ты наша...






**Бяжы!** Ты набліжаешся да апошняга вагона. У цябе толькі адна спроба, таму не памыліся...




Ну што? Дзе мой падарунак?

Камандас.

Добрая праца заслугоўвае ўзнагароды, таму ты заслужыла першы фільм з **Арнольдам Шварцнэгерам**, маленькая.

Уау. Без всратай цэнзуры?

З кожнай «курвіскай, сукай і выебкам», юная ледзі. Менавіта такі, якім яго зрабіў Марк Лестэр.

Шыкоўна.

«Мне здаецца, мы ўжо **дастаткова** паразмаўлялі аб тым, як твой бацька трэніраваў цябе, і што ён вытвараў, Міндзі».

«Разумею, гэта было весела. Усё прама як у коміксах, але я б хацеў перайсці да **забойстваў**, калі ты не супраць».


Ты хацеў сказаць да **пакаранняў смерцю**.
Не, пакаранне мяркуе быць з забойствам, згодна пастанове суда Штата, у той час як тое, што рабілі вы - было забойствам па **капрызе**.
Які твой самы **ранні ўспамін**, звязаны з усімі тымі зверствамі, у якія ты была ўцягнута?




HARDWARE
«Напэўна, гэта быў мой першы закуп, доктар Уайт...»
Твайму бацьку яшчэ што-небудзь трэба, маленькая?
KEYS
Крынка цвікоў па чаты-ры дзюймы, ізастужка, дрэль на акамулятары і будаўнічы стэплер, калі ласка...


...плюс піла, ізаляваныя абцугі, балгарка і пара накаленнікаў з праслойкай з пеністай гумы. Пажадана, чатыры, калі ёсць...
А і яшчэ, можна **садовыя нажніцы** з гумавай абмоткай на дзяржальнях.


Відаць, кагосьці чакаюць цяжкія **выхадныя**.
Вы нават уявіць сабе не можаце, якія, сэр.


На самой справе, я хацеў, каб ты расказала пра сваё першае забойства.
Калі надыйшоў момант перайсці ад звыклых трэніровак да выкрадання чужога жыцця? Ты **памятаеш** сваё першае забойства?
**Канешне**, памятаю.


Вам не абавязкова **ўсё гэта** слухаць, місіс Маккрыдзі.
Не, там **мая дачка**. Доктар Уайт сказаў, што маё знаходжанне каля яе будзе карыс-ным.


Бачу, маё пытанне аказалася для цябе не самым прыемным, Міндзі.
Ды таму, што я аблажалася. Я **прасерыла** сваё першае заданне і **падвяла** бацьку.


«Мы жылі нейкі час у Паўднёва-Усходняй Азіі, трэніравалі навыкі кан-тактнага бою і вучыліся новым прыёмам бою на нажах».
«Бацька выбраў мясцова-га злачыннага аўтарытэта, з якога, як ён лічыў, было б ня дрэнна мне пачаць. Мы арэндавалі кватэру як раз на-супраць **кватэры**, у якой той клосціў сваіх шлёндр».
JUPITER'S LEGACY


«Мне трэба было толькі спусціць курок. Але я асалапела».


«Трэба было зрабіць адзін, чысты, добры стрэл. А я скамянела, як дылетантка».


«Я ведала, што ён расчараваны, але мы вырашылі, што гэта з-за нерваў з нагоды першага раза. Але тое ж адбылася, калі я павінна была забіць сутэнёра ў закутку каля рэстарана».
«Бацька ўжо зламаў яму рукі, таму працей і быць не магло, але я так доўга прастаяла з дрыготкім пісталетам, што бацьку прыйшлося самому яго прыкончыць».




«Гэта паўтарылася яшчэ два разы, перш чым я зразумела, што ў мяне праблемы, і майму бацьку трэба было знайсці нейкае рашэнне».
Лічыш, я **калі-небудзь** змагу стаць нармальным супергероем, татуля?


Цярпенне, юная ледзі. Ты будзеш **лепш усіх**.
Проста табе трэба перастаць успрымаць гэтых вырадкаў, як **людзей**. І ў мяне ёсць шыкоўная ідэя, дзякуючы якой ты зможаш без складанасцей пераадолець сваю праблему...





ТАТАВА ШЫКОЎНАЯ ІДЭЯ:




Хто яны?
Сэкс-турысты, якія прыехалі са Злучаных Штатаў Амерыкі.
Там, адкуль мы родам, да дзіцячай прастытуцыі адносяцца вельмі строга і прадузята, але ў Таіландзе найбеднейшыя людзі становяцца лёккай здабычай для купкі **дэгенератаў**.
Ты не знойдзеш тых, хто заслугоўвае кулю ў лоб больш, чым **гэтыя** выблядкі. Спадзяюся, гэта дапаможа табе размежаваць свет на **чорнае** і **белае**.




Але чаму на іх апрануты маскі **суперзлодзеяў**? Я не разумею...
Я вырашыў, што гэта зробіць працэс трохі весялей.
Сэр, **мне так шкада**. Напэўна, узнікла нейкае жудаснае **непаразуменне**, але...


Жарты скончыліся, елдасмак. У вас 60 секунд, каб збегчы і схавацца, а потым мы з маім дзіцём пойдзем вас **забіваць**. Усё зразумела?




Хвалюешся?


Трохі.


**Ня варта**. Цябе трэніравалі да гэтага ўсё жыццё. Ты можаш прыкончыць гэтых злыдняў у **сне**, сонейка.
А цяпер давай падзелімся і возьмем іх у абцугі, як я цябе вучыў.


Калі ўсё скончыцца до-бра, цябе чакае **падарунак**.

«Памятаю тое жудаснае пачуццё, якое пакутавала мяне тады. Я правaліла ўсе заданні, не змагла забіць нікога з тых цэляў, што даў мне бацька...»

«Ён заўсёды называў герояў, якія ня насілі зброю, **баязліўцамі**, бо такіх персанажаў, як Чалавек-павук, ён лічыў **ліберальнымі елдакамі**.

«Ён выхаваў мяне так, каб я была як Карнік ці Роршах. Я не хацела, каб ён **страціў сваю веру** ў мяне. Тым больш пасля ўсіх гэтых доўгіх **трэніровак**...»

Татуля? Гэта ты?

SNAP!

Татуля?

Кінь гармату, маленькая дрэнь!

О божа!

Стрэл у галаву. Усім чатыром. Толькі так мы зможам выратавацца, маленькая!

Ты **запхнеш-ся** нарэшце? Давайце проста ўсе **супакоімся** на секунду?

Кінь гармату і ніхто не папакутуе. Будзь добрай дзяўчынкай, і нічога не адбудзецца. Зразумела?

Не слухай іх, маленькая. Гэтыя людзі - злодзеі. Яны **заб'юць нас абодвух**!

**Запхніся**! Гэта ўсё твая віна, пракляты псіх! Мы не хацелі нікога забіваць, але ты **вымушаеш** нас зрабіць гэта.

Чувак, ты, курвіска, здохнуць хочаш?

Міндзі! **Прашу**! У цябе **пара секунд**, каб **стрэліць**...


Мая разумніца.


Я ведаў, што ты зладзіш, калі ў цябе будзе стымул. А што магло стаць лепшым стымулам, чым выратаванне твайго старога?
Хочаш сказаць, ты **даў** ім схапіць сябе?


**Канешне**. Лічыш, я б не зладзіў з чатырма **перакрутамі**? Але я ведаў, што ты мяне не падвядзеш. У цябе быў **лепшы** трэнер.


А цяпер... Хочаш убачыць свой падарунак за такую добра выкананую працу?


Што гэта?
Твая супергеройская маска і касцюм. Я зрабіў яго **некалькі тыдняў** назад, але ўсё чакаў падыходзячага моманту.


Што можа падыйсці лепш, чым дзень, калі ты пакарала сваіх першых **суперзлодзеяў**?


Ці ты **злавалася** на бацьку за тое, што ён ашукаў цябе?
**Канешне ж** не. Зрабіўшы выгляд, што яго схапілі, ён дапамог мне пераадолець свае глупыя страхі **перад няўдачай**.

Як ты лічыш, у чым прычына тваіх мінулых ваганняў, Міндзі? Ты адчувала, што робіш нешта **няправільнае**?
Чаму ты не хацела, каб твая маці **наведвала** цябе, пакуль ты знаходзішся ў гэтай турме строгага рэжыму?

Што **здарылася**, маленькая? Я лічыў, ты бедзеш задаволена свайму першаму касцюму?

А раптам маці **разлуецца** на мяне за тое, што я забіваю людзей, татуля?
Не раззлуецца. Ты толькі што пазбавіла свет ад некалькі **дрэнных людзей**...
...маці будзе **вельмі ганарыцца** за цябе.


Але яна не ганарылася мною. Яна нават не была мёртвай. Ня ведаю чаму, але ён не ўсё мне расказаў, а калі я даведалася, што яна была жыва...
Ну, я падумала, што яна можа палічыць мяне злым чалавекам, калі даведаецца праўды. Я лічыла, што яна расчаруецца ў мне.


Менавіта таму я не хацела, бачыцца з ёй. Не хацела, каб яна прыходзіла ў турму. Я баялася таго, што ёй будзе сорамна за ўсе тыя добрыя рэчы, якія я спрабавала зрабіць.


На самой справе яна ўсё бачыць з суседняга пакою.
Што?
І яна не вінаваціць цябе ні за што. Яна ведае, што ты хацела як лепш і папрасіла мяне перадаць табе, што яна цябе вельмі моцна любіць.


Таму я спытаю цябе яшчэ раз, і ў цябе ёсць права сказаць не...


Ці можа твая маці прыйсці і пабачыцца з табой? Хоць бы і на пяць хвілін?




Канешне, чаму б і не, блін?

Матыльда, прашу, спытайце ў маці Міндзі, ці хоча яна далучыцца да нас?

Чорт, а ён майстар. Усё ідзе лепш не пажадаеш...


Заставайцеся перад рысай, мэм. Для вашай жа бяспекі. Сядайце і не набліжайцеся да зняволенай.


Я-як ты, сонейка?
Нармалёва, быццам бы.


Я заўсёды казаў - не існуе звар'яцелых людзей, ёсць толькі тыя, якія яшчэ не вылечылі. Я ведаў, што знайсці паразуменне з ёй можна будзе толькі праз пачуццё віны перад яе **маці**.


Я чула кожнае тваё слова і не магла паверыць сваім вушам. Усе гэтыя **неверагодныя рэчы**, якія ты зрабіла... У мяне кружэнне ў галаве, варта мне толькі падумаць аб гэтым.


Я хацела расказаць табе, што пару тыдняў назад знайшла **працу**. Ведаю, нічога асаблівага, але для мяне гэта вельмі многа значыць.
Яшчэ я пачала дапамагаць у **прытулку** ў нашым раёне і ў першыню з часоў старэйшай школы ў мяне з'явілася **асяроддзе сяброў**. Можаш у гэта **паверыць**?




Бо калі я змагла стварыць такога чалавека, як **ты**, тады я не такая слабая, як **лічыла**...

Што?

Ты рабіла тое, аб чым іншыя людзі маглі толькі марыць.

Ты змагалася з мафіяй, барыгамі і нячэснымі копамі, якія рабілі наша жыццё такім жудасным.







Я люблю цябе, Міндзі, і я ведаю, што ты выбярэшся адсюль і будзеш рабіць тое, што даецца табе лепш за ўсё. Гэтыя ідыёты не змогуць доўга цябе ўтрымліваць тут.

Я жа сказаў, **не заходзьце за рысу**, мэм!

**Убяры ад мяне свае рукі, жыртрэс!**

О божа...

Не спыняй барацьбу, маленькая! **Ніколі** не давай гэтым выблядкам казаць табе, што **рабіць**!

Хм, **гэта** дакладна не было часткай вашага плана.
Клянуся, усе ў гэтай сямейцы - псіхі кончаныя...


ЗАДАНАДЗІРАЦЕЛЬ:




BILLYS
Carlo's
ONE WAY
Carlo's


Прэч з дарогі! Мне нельга спыняцца!
BERTO'S


YOU'VE TRIED THE REST NOW TRY THE BEST
-7413


Лайно!


Спыніце яго. Страляйце па нагах.


AUGH!


Ты ў дупу патрапіў, прытырак!


Што адбываецца? Хто вы?
Інспектары з асацыяцыі піцы! Запхніся!


Давай, хлопец. Ты дапаможам нам высачыць гэтую гробаную банду костак і чэрапаў. Ты жа лідэр **супергероаў**? Не рабі выгляд, што ня ведаеш, дзе яны **жывуць**!
Богам клянуся! Я **нічога** ня ведаю!


UNGH!




Кладзі яго ззаду. Толькі чахлы не запсуй. Я ўсю нядзелю машыну чысціў.


Гэта табе на маўчанне.


ВІК ДЖЫГАНТЭ:
Справа набірае моц, Вік. Яны ўтапілі гэтага... як яго... героя нумар пяць...


Што будзем рабіць, чувак? Лічыш, хутка яны дабяруцца да нас?
Навошта ім прыходзіць за намі? Мы высокапастаўленыя афіцэры! **Яны** ня ведаюць, што мы на самой справе і ёсць банда Касцяных чэрапаў.


Адхіліся на спінку крэсла, адпачні і дазволь героям прыняць удар на сябе.


Як толькі ўсё сціхне, мы зможам выбрацца і здзейсніць яшчэ адно рабаванне.


Паверце, рабяты. Усё будзе **на найвыжшым узроўні**.

**ДЭЙВ ЛІЗЕЎСКІ:**

Тод, гэта я. Я зараз гляджу навіны. Адбываецца нейкая жэсць. Я напужаны да чэрцяў, чувак.

Я запісаў табе тры паведамлення, але ты так і не адзваніўся. Набяры мяне і дай ведаць, што ўсё ў парадку, добра?

Я разумею, ты злуешся на мяне за тое, што я прапусціў усе зборы, але я сапраўды за цябе вельмі турбуюся.

Паабяцай, што больш не апранеш касцюм. Яны ня ведаюць, хто ты, пакуль ты не апранеш **маску**.









*Прывітанне, малыш, прабач, але мне трэба ўзяць тваю машыну і паспрабаваць знайсці Тода. Я толькі хачу пераканацца, што з маім сябрам усё ў парадку. XXX.







ЗНОЎ У КВАТЭРЫ:






ЗАБІВАШКА:

Ну, я рады, што хоць хтосьці сёння ўсмехаецца.

Усё таму, што я зноў адчула прыліў **сіл**, Чак.

Не зразумей мяне няправільна, але я ўжо распрацоўваю план уцёкаў з гэтай дзюры і тое, як я ачышчу ўсё лайно.







РОКО ДЖЭНАВЕЗЭ:


Ахова выглядае пераканальна.
Мы не можам рызыкаваць, Хросны бацька.


Тут будуць лідэры ўсіх банд з Усходняга ўзбярэжжа і нам важна, каб яны ведалі, што вы не прыхільнік паўмер.


Як прасоўваюцца справы ў хлопцаў?
Згодна апошнім справаздачам, яны зачысцілі 90% супергерояў за две гадзіны, сэр.


А Крыстафер?
Накіроўваецца за Забівашкай. Мы заплацілі ўсім ахоўнікам і адключылі сістэму назірання, каб усё прайшло як па маслу.


Нават **не спрабуй** павa-рушыцца, малая. Дзесяць міліграмаў мідазалама вырубілі твае рухавыя функцыі на наступныя паўтары гадзіны.


«А, і не спадзявайся, што цябе зараз выратуюць. Калі верыць навінам, усе твае ляснутыя сябры ўжо кормяць чарвякоў у зямлі».


Вось што адбываецца, калі ты злуеш **мафію**. Можа спатрэбіцца час, але ў выніку мы ўсё роўна **перамагаем**.


Я маю рацыю, Крыстафер?


Менавіта так.
TO BE CONTINUED




# NEW 52 ЦУДА-ЖАНЧЫНА.

(DC, 2011)

**ужо даступны на www.patreon.com/comicsby**

**Azzarello, Chiang.** Богі ходзяць сярод нас. Толькі адна жанчына адважылася б абараняць чалавецтва ад гневу такіх дзіўных і магутных сілаў. Але яна адна з нас ці адна з іх? Новая эра пачынаецца для амазонскай прынцэсы Цуда-Жанчыны пад аўтарствам Брайана Азарэла і Кліфа Чанга.









# ПАДТРЫМАЙ МЯНЕ НА PATREON

**www.patreon.com/comicsby**

Твая падтрымка дапаможа мне праводзіць больш часу за перакладамі коміксаў, каб у цябе было яшчэ больш літаратуры на беларускай мове.

## Выбяры адзін з варыянтаў падтрымкі на patreon:

Афіцыйны патрон

**3 $**
ЗА МЕСЯЦ

**ДАЛУЧЫЦЦА**

Афіцыйны патрон атрымлівае спасылку на рэліз перакладa **на 1 месяц раней**, чым падпішчыкі ў сацыяльных сетках.

- На 1 месяц раней, чым усе

Патрон з падпіскай прэміўм

**5 $**
ЗА МЕСЯЦ

**ДАЛУЧЫЦЦА**

**Патрон з падпіскай прэміўм** атрымлівае спасылку на рэліз новых серый **на 1 год раней**, чым падпішчыкі сацыяльных сетак.

Сярод такіх новых серый мы плануем коміксы «Цуда-жанчына», «Дарт Вэйдэр», «Чорны молат», «Дэпартамент праўды» і інш. Спачатку - па 2 выпускі ў месяц, а далей - у залежнасці ад колькасці патронаў з падпіскай прэміўм.

Так сама атрымлівае ўсё тое, што і **Афіцыйныя патроны**.

- На 1 год раней, чым усе
- На 1 месяц раней, чым усе
- Дотык да новых серый коміксаў

## Мае мэты:

**100 патронаў** -
я найму перакладчыкаў, каб было яшчэ больш перакладаў на беларускую мову.

**500 патронаў** -
я ствару выдавецтва, мэтай якога будзе - электронная публікацыя арыгінальных коміксаў і кніжак на беларускай мове.

**1000 патронаў** -
выдавецтва пачне друкаваць папяровыя кніжкі і коміксы з творамі на беларускай мове, якія можна будзе набыць у беларускіх крамах.